№№185–186
(3724–3725)

27 лістапада 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
*Якуб КОЛАС*

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Как летели головы...

*Впервые за 18 лет правления Александр Лукашенко посетил не подготовленное к его визиту предприятие. И сделал открытие: "У нас бардак!"*

Чиновники во главе с президентом залезали в подсобки старых цехов "Ивацевичдрев" реально через какой-то подвал. Пробирались через мусор, охрана подсвечивала дорогу фонариком.

Лукашенко:

— Может, вы включите свет, кто тут...

В ответ бормотание.

— Иди, Сумар, включи свет...

На фоне Лукашенко кажущийся совсем маленьким Сумар (председатель Брестского облисполкома) начинает что-то в темноте искать по стенам.

Опять бормотание.

— Как нету света?!. — не кричит, а гневно выдыхает Лукашенко.

Практически на ощупь нашли дверь. Вошли.

Помещение освещают только телекамеры. Внезапно из этой фрагментарно подсвеченной темноты появляются люди в робах. Вид — виноватый-виноватый. Руки в карманы, глаза в пол.

Лукашенко:

— А что вы здесь делаете, мужики?

— Хотели навести порядок...

— Порядок навести?!.. *(Пауза.)* Тоже хорошее дело.

Теперь и у Лукашенко глаза в пол, на котором — хлам и грязь:

— Сюда посвети, оператор. Вот, иди сюда, сними. Здесь есть что снять...

А дальше Лукашенко пошел по цехам, в которых его не ждали. И душевно так с простыми женщинами поговорил:

— Так какая зарплата была в прошлом месяце?

Несмелый ответ:

— Три...

— Сколько? — Лукашенко даже наклонился, чтобы не ослышаться.

Женщина говорит громче и смелее:

— Три.

— Ровно? — он пристально смотрит в глаза: мол, не обманывать!

Она тут же уточняет:

— Три сто.

— У вас средняя такая зарплата, смотрю, — три сто у рабочих, — делает вывод глава государства, хотя сам давно уверенно докладывал народу, что почти везде по стране до средней зарплаты 500 долларов дотянули.

И переспрашивает: "Да?.." Потом еще раз, с нажимом: "Да?.."

Женщины в ответ нерешительно кивают: "Да".

Лукашенко, вздрогнув усом (мол, все ясно), уходит, не улыбаясь и не прощаясь.

Итог этого посещения предприятия — увольнение директора и временный перевод в Ивацевичи главы концерна "Беллесбумпром" Владимира Шульги. Вице-премьера Владимира Семашко глава государства уведомил, что тот ответит головой: "Советую тебе навести на старых предприятиях порядок. Бери метлу и вместе метите. Не дай Бог я неожиданно приеду на старые предприятия, которые не в плане, и там будет бардак!.."

Впрочем, вряд ли кто-то ожидает подобных изменений заранее запланированного и согласованного маршрута. То, что Лукашенко в Ивацевичах надумал зайти на старый завод, — это беспрецедентно. Традиционно он посещает только новые и успешные объекты либо разбирается с проектами, где схлестнулись интересы крупного бизнеса. Бывало, что к его приезду вдоль дорог красили деревья, вырывали одуванчики, чтобы трава была зеленее, свиней свозили на одну ферму со всего района... Но, похоже, глава государства 18 лет не видел этой показухи и видеть не хотел.

Таким образом, можно признать, что посещение старых цехов "Ивацевичдрев" — это был минутный порыв, экспромт, возможно, — "домашняя заготовка", у которой есть неизвестный нам подтекст. Но краткое возвращение в реальность, судя по всему, Лукашенко не порадовало. Это ведь действительно удобно — жить в придуманном мире, где все заводы новые и современные, прекрасно работают, а люди счастливы, довольны, на зарплату и руководство не нарадуются. А кто говорит об обратном — те враги, они "клевещут".

В прошлую пятницу А.Лукашенко спустился на землю и сделал вид, что поражен, разочарован и даже не догадывался, что цеха в наше время могут быть без стекол в окнах, а подсобки — без света. Хотя Беларусь небольшая страна и ничто не мешает ему приехать на любой объект в любое время, все посмотреть, поговорить с людьми и не судить о действительности исключительно по докладам.

Причем всем понятно, что ничего вопиющего на "Ивацевичдрев" Лукашенко не увидел. То, что для него может быть стало открытием, для всех — реальная жизнь. И в Ивацевичах ситуация ничуть не хуже, чем у других. Именно поэтому за седовласого директора предприятия Бориса Михнюка пытались заступиться и некоторые работники, и вице-премьер Семашко. Последний вообще честно признался: "Это лучшее предприятие, если мы поедем в Борисов, там может быть еще хуже".

Но такое откровение Лукашенко переварить уже, видимо, не смог. Не ответил.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ




# Вырашана знішчыць

*41 альбом з лепшымі здымкамі беларускіх фатографаў будзе спалены?*

Ашмянскае аддзяленне мытні праінфармавала пераможцу конкурсу BELARUS PRESS PHOTO Аляксандра Васюковіча, што "друкаваная прадукцыя — BELARUS PRESS PHOTO ў колькасці 41 асобніка на падставе вынікаў правядзення мытнай экспертызы прызнаецца незаконнай (не адпаведнай Дзяржаўнаму стандарту РБ СТБ 7.4-2009 "Выданні. Выходныя звесткі") і падлягае знішчэнню".

Гэтыя альбомы на беларуска-літоўскай мяжы забралі 12 лістапада з машыны, на якой ехалі фотакарэспандэнты Вадзім Заміроўскі і Юлія Дарашкевіч. Тады мытнікі не адказалі на пытанне, чаму забіраюць кнігі, якія ўжо прайшлі мытнае афармленне? А цяпер і ўвогуле няма ахвотных што-небудзь тлумачыць. Колькі мы ні тэлефанавалі "ў кампетэнтныя службы", але так і не знайшлі адказу на пытынне: "Чаму вырашана знішчыць альбомы з мінулагодняга конкурсу, якія журналісты везлі ў Беларусь пасля правядзення шматлікіх выставак?"

Сам конкурс BELARUS PRESS PHOTO, які адразу стаў прэстыжным, сёлета адбыўся трэці раз. У 2009-м яго заснавалі беларускія фотакарэспандэнты з адной мэтай — падтрымліваць і развіваць прафесійную прэс-фатаграфію ў Беларусі. Конкурс мусіць спрыяць развіццю фотажурналістыкі, падтрымліваць абмен досведам і ведамі паміж пакаленнямі беларускіх фатографаў, а таксама фармуляваць высокія прафесійныя стандарты ў фотажурналістыцы. У гонцы штогод удзельнічаюць дзясяткі беларускіх фатографаў, а фінальныя экспазіцыі дэманструюцца далёка за межамі Беларусі. Па выніках — ужо двойчы — выпускалі складанку фатаграфій-пераможцаў. Напрыклад, сёлета на конкурс было даслана каля 2500 фотаздымкаў, і таксама плануецца выдаць альбом лепшых.

На тых альбомах, якія забралі мытнікі, на вокладцы — здымак Сяргея Гудзіліна, на якім салдаты 60-га палка сувязі ў Барысаве 6 жніўня 2010 года глядзяць "Панараму" на дзяржаўным канале Беларускага тэлебачання. Гэты элемент ідэалагічнага выхавання салдат выкарыстоўваўся яшчэ ў войску СССР і ў Беларусі захаваўся дагэтуль. Але, здаецца, падобнымі кадрамі беларуская армія ганарыцца. У чым жа крамола?

Юлія Дарашкевіч разам са сваімі калегамі тэлефанавала мытнікам цягам усяго тыдня. "Усё бессэнсоўна, — расказвае журналістка. — Калі па нейкіх нумарах здымалі слухаўку, то прапаноўвалі іншыя нумары тэлефонаў, а там ці не адказвалі, ці зноў прапаноўвалі пазваніць на іншы нумар. Я магу толькі здагадвацца, што, магчыма, нехта даў загад знішчыць альбомы, а цяпер мытнікі папросту не ведаюць, як выйсці з гэтай сітуацыі і якімі законамі гэта ўсё патлумачыць".

**Любоў ЛУНЁВА.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Турмаў хопіць усім

*Мікалай Дзядок, асуджаны на чатыры з паловай гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у акцыях анархістаў, можа быць пераведзены ў турму.*

Пра гэта БелаПАН паведаміў яго сябар Аляксандр Ярашэвіч. Днямі ён атрымаў ад Дзядка ліст. *"Мікалай піша, што на днях у шклоўскай калоніі №17, дзе ён адбывае пакаранне, адбылася камісія, якая пастанавіла, што Дзядок не ўстаў на шлях выпраўлення і працягвае аказваць згубны ўплыў на іншых зняволеных. У сувязі з гэтым было вырашана накіраваць справу Мікалая ў суд для вырашэння пытання аб пераводзе яго ў турму строгага рэжыму"*, — сказаў Ярашэвіч.

Паводле яго слоў, Дзядок знаходзіцца цяпер у памяшканні камернага тыпу калоніі, прычым сядзіць у камеры адзін. *"У сувязі з гэтым незразумела, на каго ён аказвае згубны ўплыў"*, — адзначыў Ярашэвіч.

Суд, як напісаў Мікалай, адбудзецца на гэтым тыдні, як мяркуецца, 29 лістапада, хоць дата пасяджэння дакладна не вядомая. *"Але ён напісаў мне ў лісце, каб у далейшым я ўжо пісаў на адрас магілёўскай турмы №4. Гэта значыць ён упэўнены, што яго перавядуць у турму"*, — сказаў Ярашэвіч.

Нагадаем, што нейкім дзіўным чынам многія з тых, каго праваабарончыя арганізацыі прызнаюць беларускімі палітзняволенымі, аказаліся "злоснымі парушальнікамі", з-за чаго ім альбо дадаюць тэрмін (як гэта было з Дзмітрыем Дашкевічам), альбо пераводзяць з калоній у турмы (гэта і Мікалай Аўтуховіч, і Мікалай Статкевіч, і Яўген Васьковіч). Няма ніводнага палітзняволенага, які не мае спагнанняў. Міжволі напрошваецца высноўа, што на ўсіх, хто адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта, проста непрыхавана ціснуць, каб зрабіць умовы ў зняволенні невыноснымі.

ПАЛІТКУХНЯ

## Апазіцыя і дыяспара хочуць правесці інтэрнэт-выбары

*V Кангрэс новай беларускай дыяспары Еўропы і ЗША дэмакратычных сіл Беларусі ў Таліне сабраў амаль 50 удзельнікаў.*

Беларускую дыяспару прадстаўлялі Беларускі інфармацыйны дом (Польшча), "Беларускі трыбунал" (Нідэрланды), "Альянс за мадэрнізацыю" (Чэхія), Беларускі дом у Вільні (Літва), Deutsch-belarussische Gesellschaft (Нямеччына), Беларусы Пецярбурга (Расія).

У якасці экспертаў — палітуцекачы Алесь Міхалевіч і Алесь Зарэмбюк, намеснік старшыні "Руху за Свабоду" Юрась Губарэвіч, сябра Сойма Партыі БНФ Юрый Чавусаў, былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава і шэраг іншых.

Некаторыя запрошаныя госці ад удзелу адмовіліся. Напрыклад, рэдактар сайта "Хартыя'97" Наталля Радзіна напярэдадні напісала на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку": *"Са здзіўленнем даведалася, што на Кангрэсе беларускай дыяспары... будзе Вольга Абрамава. Выдатная кампанія. Я, мабыць, устрымаюся ад удзелу"*.

Як перадае Радыё Свабода, Юрась Губарэвіч пачаў і скончыў выступленне прагнозам, што 2013 год наўрад ці прынясе нейкія зрухі: *"Грамадства будзе занятае вырашэннем сваіх уласных, у тым ліку фінансавых, праблем. Палітычная актывізацыя будзе невялікая, тым больш калі апазіцыя не выступіць кансалідавана. Напярэдадні мясцовых выбараў 2014 года магчыма абранне адзінага кандыдата"*.

Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Вольга Абрамава задала пытанне Юрасю Губарэвічу пра раскол апазіцыі на "радыкальную" і "ўмераную":

*"Ваш альянс Руху "За Свабоду", „Гавары праўду!" і Партыі БНФ, на маю думку, вельмі перспектыўны. Ці мадэлявалі вы адносіны з другім лагерам, з радыкаламі?.. Якія з ім адносіны?"*

Юрась Губарэвіч адказаў, што падзел на "радыкальных" і "ўмераных" умоўны:

*"Усе радыкалы ўжо з'ехалі з Беларусі. Іх радыкалізм — у рыторыцы і непрымірымай пазіцыі. На маю думку, пазіцыя іх утапічная, яна толькі кансервуе сітуацыю, наменклатура для сябе не бачыць ніякіх перспектыў"*.

Адна з дыскусій, якія адбываліся ў межах Кангрэсу, тычылася інтэрнэт-праймерыз як спосабу працы дэмакратычнай супольнасці з насельніцтвам. Удзельнікі гэтай групы ў цэлым пагадзіліся, што інтэрнэт-праймерыз можна выкарыстаць для вызначэння адзінага кандыдата на выбарах 2015 года альбо для выбараў легітымнага органа апазіцыі ці грамадзянскай супольнасці Беларусі. Такі спосаб зараз вельмі папулярны, тым больш што эксперты з Расіі ахвотна расказваюць, як ім нядаўна пры дапамозе Сеціва ўдалося правесці выбары ў Каардынацыйную раду расійскай апазіцыі.

Але ці змогуць выбары лідара беларускай апазіцыі праз інтэрнэт сапраўды аб'яднаць дэмакратычныя сілы дзеля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах? Што думаеце вы, чытачы "Народнай Волі"?

**Марыя ВОЙЦІК.**

**Шаноўныя сябры!**
**Вы хочаце, каб "Народная Воля" як незалежная газета Беларусі больш уплывала на вырашэнне грамадска-палітычных праблем?**
**Калі хочаце, то падпішыцеся самі і парайце гэта зрабіць іншым.**
**Падпіска на 1-ю палову 2013 года блізіцца да завяршэння.**
**Не спазніцеся!**

СКАНДАЛ

# Власть боится художника Марочкина?

*Витебский государственный университет им.П.М.Машерова отказал в выставке своему выпускнику Алексею Марочкину. За неделю до ее открытия.*

Уже напечатаны плакаты, пригласительные билеты. Назначен день открытия вернисажа — 30 ноября, картины художника загружены в автобус, чтобы перевезти их из Минска в Витебск. Но — раздался звонок, и все сорвалось. Выставка Алексея Марочкина, который 50 лет назад окончил художественно-графический факультет Витебского университета им.П.М.Машерова, в этом учебном заведении банальным образом запрещена. Естественно, под благовидным предлогом.

Куратор выставки Кася Мясникова рассказала, что еще в пятницу она уточняла детали с заведующим кафедрой изобразительного искусства Г.Исаковым, а в субботу **декан Д.Сенько** сказал, что выставочный зал занят в связи с переаттестацией учебного заведения. И выставка Марочкина отменяется. Конечно, с таким бдением и рвением университет переаттестацию получит, а как же... У нас высоко оценивается политическое холуйство.

Но, если по совести, — это стыдно: отказывать известному художнику в выставке. И где? В его альма-матер! Можно не соглашаться с политическими взглядами Алексея Марочкина, можно спорить и даже его ругать, можно — возьму на себя смелость сказать — снять из экспозиции некоторые работы, раз вы бдите о стерильной университетской среде (у художника действительно есть картины с резким политическим подтекстом). Но вообще запретить художественную выставку, на которую сами же и пригласили полгода назад, когда отмечали 50-летие первого выпуска художественно-графического факультета, — это просто показать убожество своего мышления, продемонстрировать свою чиновничью тупую подневольную по всем статьям суть. В конце концов два года назад в центре Минска, во Дворце искусства, состоялась персональная выставка художника Марочкина — и мир не перевернулся, революция не вспыхнула, телефон и телеграф захвачены не были, а власть осталась в тех же руках, в которых и находится до сих пор.

И вот ведь пройдет время, и все те же действующие лица будут еще просить и заискивать перед художником и его семьей, чтобы такая выставка все же состоялась, чтобы в Витебске появились работы мастера, чтобы хоть краем, хоть уголком... Поспорим? Это будет примерно так же, как с Марком Шагалом. Он ведь тоже когда-то предлагал свои работы Витебску, когда в начале 1970-х приезжал в СССР. Но не то что картины не взяли, его самого в родной город не пустили. А теперь побираемся, тысячи долларов только за репродукции выкладываем. И всюду трубим: "Наш Шагал..." Правильно сказал как-то посол Франции Мишель Ренери, что не надо так рьяно "примазываться" к мировой знаменитости: Шагал — французский художник, потому что именно Франция дала ему возможность стать тем, кем он стал. А Беларусь не дала.

А Алесь Марочкин — знаменитость белорусская. Серьезный маститый художник. Это — факт, независимый от текущих административных решений по поводу его выставок. В общем-то, подобными отказами власть только создает живописцу еще большую популярность, как говорится, пишет ему красивую судьбу. Информация об инциденте с витебской выставкой все равно уже разлетелась по информационному пространству, ведь скрыть подобное сейчас невозможно. Еще раз подтвердилось, что наша власть панически боится художников. Что говорит о ее болезненной слабости...

**Елена МОЛОЧКО.**

ДРУГАЯ ПРАВДА

# Вместо «спасибо»

Уволенный со скандалом на всю страну директор "Ивацевичдрев" Борис Михайлович Михнюк — человек, портрет которого практически не снимали с Доски почета. Заслуженный работник промышленности Республики Беларусь, награжден орденом Трудового Красного Знамени, медалью "За трудовые заслуги", ему посвящена статья в справочнике "Лучшие люди Беларуси". Предприятием руководил в самые тяжкие времена — практически от развала Союза и до прошлой пятницы. И вот такой финал.

"Красный директор"? В Ивацевичах говорят, что не без этого. Однако не шел по головам, не рвачествовал, его дом в городе все знают — для такой должности не шикарный, хотя "Ивацевичдрев" — градообразующее предприятие. То есть еще можно поспорить, кто в районе более влиятельная персона — директор завода или председатель райисполкома. Однако Михнюк не кичился и не жировал.

Главы районной вертикали менялись, директор — нет. Он и сам уже хотел уйти, все-таки возраст не мальчика — за семьдесят. Твердое решение покинуть все посты принял в прошлом году, когда на семью свалилось огромное горе: в Бресте была убита и утоплена 24-летняя внучка — умница и красавица. Про эту трагедию и читать было страшно, а Борису Михнюку надо было ее как-то пережить. Вот тогда он и решил уйти на покой (если вообще можно было говорить о покое). Но Михнюка не отпустили.



Не думал Борис Михнюк, что так закончит свою карьеру.

Программа модернизации предприятия шла тяжело. То один документ не согласован, то другой, все бумаги подписали — денег нет. Нашлись деньги, началась стройка — прислали таких рабочих, которые растащили ценнейшее оборудование. В итоге строители сорвали все сроки, с ними ничего не могли сделать ни премьер, ни вице-премьер — не то что директор. Модернизация затянулась на год дольше, чем планировалось изначально, и вогнала "Ивацевичдрев" в долги, хотя ранее предприятие никогда не "лежало".

А от Михнюка требовали реляций. Хотя тяжело было сдержаться, чтобы про такую модернизацию без мата рассказывать.

Все всё понимали — и в районе, и в области, и в концерне, и в правительстве. И просили директора только об одном: "Запустишь новый завод — и будет тебе почетная пенсия. Надо. Больше некому".

В последний день октября этого года Михнюк новый завод запустил.

А вот "спасибо" не дождался. Вместо этого был уволен с позором на всю страну.

По Ивацевичам теперь ходит слух, что сразу после визита президента и скандальной отставки Михнюк попал в реанимацию. Его никто не может разыскать, он не отвечает на телефонные звонки, его нет дома. В районной больнице нам по секрету сказали, что действительно все выходные звонили самые разные люди и интересовались состоянием здоровья бывшего директора "Ивацевичдрев". Однако в больнице его нет. И не было. Скорее всего дети забрали отца в Брест.

Вот так: с боем, кровью, нервами новое предприятие запущено, почти вся продукция будет уходить на экспорт, и теперь уже кто-нибудь менее опытный справится с тем, чтобы подсчитать экспортную выручку. Но зачем же так со стариками? Почему так не по-людски?

Народная Воля http://www.nv-online.info
27 ЛІСТАПАДА 2012 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# Без перспективы

Успешная белорусская модель экономического развития демонстрирует рост валового внутреннего продукта за 10 месяцев лишь 2,2%. ВВП, полученный за октябрь, на 11,7% меньше аналогичного показателя за сентябрь. При этом инвестиции в основной капитал сократились на 13,5%, цены потребительского рынка выросли с начала года на 18,1%, по сравнению с октябрем 2011 года — на 30,6%. Свыше 500 предприятий работают с убытками...

И это еще не все "симптомы". Наличная денежная масса по состоянию на 1 ноября составила 9,73 триллиона рублей и увеличилась с начала года на 44,9%, вся рублевая масса возросла на 37%. Как видно, ВВП страны продолжает монетизироваться за счет печатного станка. 500-долларовая зарплата обеспечивает жизненный уровень белоруса на 3-м месте в Европе. Только снизу, после Молдовы и Косово. Наше благосостояние просто плачевное.

И это при том, что мы имеем самые дешевые в Европе энергоносители. Ключевую роль в формировании экономического роста текущего года играл нефтяной бизнес. За счет его получено где-то две трети роста ВВП. Поэтому, когда российская сторона после заявлений белорусских переговорщиков о достижении договоренностей по поставкам нам в следующем году желанных 23 миллионов тонн нефти вдруг огласила, что готова поставить только 18 миллионов тонн, это повергло в шок все белорусское руководство. 5 миллионов тонн — это огромная для Беларуси цифра, это потеря в следующем году миллиардных долларовых сумм экспортной выручки, глубокий завал торгового баланса в отрицательную область со всеми вытекающими валютными проблемами. В году, в котором нам по внешним государственным долгам надо рассчитаться на сумму, вдвое большую, чем в нынешнем. Это удар под дых. Это продолжение наказания белорусского руководства за невыполнение своих обещаний. Обещали приватизировать на 2,5 миллиарда долларов госсобственности (читай: в пользу российского капитала) — не сделали, обещали поставить 5,8 миллиона тонн бензинов и других нефтепродуктов на российский рынок — не поставили. Ущерб от нашумевшего "расторительного" бизнеса белорусов россияне оценивают в 2—2,5 миллиарда долларов. Так чего вы хотите?

Ссылки россиян на то, что у них недостает для нас нефти, мол, надо загрузить Балтийскую трубопроводную систему, несерьезны. Искать альтернативные источники поставки нефти, как показала практика работы с Венесуэлой и Азербайджаном, непродуктивно. У Казахстана нефть без содействия россиян также не купишь. Очевидно одно: сложившаяся ситуация с нефтью для Беларуси неприемлема, поставит ее экономику в критическое положение, и переговоры с Россией необходимо продолжать. Возможно, на самом высоком уровне.

Президент вновь потребовал от правительства выполнения запланированных 5—5,5% роста ВВП, и премьер вновь пообещал это сделать (и, надо думать, будет обещать вплоть до 31 декабря). За счет каких источников, какими путями — никому не известно. Россия уже ограничила поставки нефти в IV квартале, а Нацбанк не желает идти на неконтролируемую кредитную экспансию. И, вероятно, не будет трогать ставку рефинансирования до конца года. Также не понятно: за счет чего будет обеспечиваться рост ВВП на 8,5% в следующем году? Судя по всему, рост ВВП в Беларуси стал уже не только директивным, но и политическим показателем. Но особенности белорусской модели экономики в том, что рост ВВП далеко не всегда выливается в рост жизненного уровня населения. В прошлом году при росте ВВП на 5,3% вследствие трехкратной девальвации и двукратной инфляции этот жизненный уровень просто обвалился. И мы его не можем достичь в течение двух лет. Сегодняшние 500 долларов средней зарплаты — это не 500 долларов в конце 2010 года. Кризис прошлого года показал, что перед белорусской экономической моделью в том виде, в каком она существует сегодня, постоянно стоит дилемма: или наращивать ВВП за счет дешевых не обеспеченных ресурсами кредитов, пожертвовав финансовой стабильностью в виде умеренной инфляции и устойчивого валютного курса белорусского рубля, либо, наоборот, отказаться от самоцели в виде директив по росту ВВП, но обрести относительную финансовую сбалансированность экономики. Источников развития экономики так, чтобы обеспечивался ее рост без ущерба финансовой составляющей скорей всего больше не осталось. И такие задачи, которые президент ставит перед правительством, — невыполнимы и исключают одна другую. Белорусскую экономику давно надо кардинально менять.

В противном случае единственная возможность хотя бы удержать ее на плаву — это новые договоренности с российским руководством по нефти, по следующим траншам кредита антикризисного фонда, которые задерживают, по другим вопросам. Что возможно, на наш взгляд, лишь в обмен на интересующие россиян белорусские активы. Придется отказываться от завышенных ценовых ожиданий на эти активы и быть более уступчивыми в социальных и других условиях, которыми обставляются приватизационные сделки. Экономика авторитарного типа не может быть устойчивой даже в среднесрочной перспективе. Она постоянно находится в неопределенности, а население — в подвешенном состоянии. И сегодня, как и перед каждым Новым годом, люди задаются вопросами: а не будет ли после Нового года девальвации (синдром 2 января 2009 года), когда надо уводить деньги с рублевых депозитов (синдром валютного кризиса 2011 года), и что вообще с нами будет в следующем году? Экономика страны, уровень независимости и степень жизнеспособности которой определяется в другом государстве, не имеет перспективы. Это подтверждают и недавние слова главы государства, высказанные на встрече с очередным российским визитером: "Без России мы вообще не видим существования экономики Беларуси..."

Все страны живут "без России", а мы не можем. Доруководились!

АКЦЫЯ

## Чаму каманда БАТЭ гуляла з белымі стужкамі на рукавах?

Футбольны клуб БАТЭ далучыўся да сусветнай мужчынскай ініцыятывы па спыненні гвалту ў адносінах да жанчын.

25 лістапада, у Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю гвалту ў адносінах да жанчын, футбольная каманда БАТЭ згуляла матч супраць клуба "Шахцёр" (Салігорск) у падтрымку гэтай міжнароднай ініцыятывы.

— Надзеўшы белыя стужачкі, наша каманда далучылася да інфармацыйнай кампаніі ў рамках праекта па прадухіленні хатняга гвалту і забеспячэнні гендэрнай роўнасці, а таксама да міжнароднай ініцыятывы "16 актыўных дзён супраць гвалту ў адносінах да жанчын". Тым самым мы далі абавязацельства ніколі не здзяйсняць гвалт самім, не апраўдваць і не замоўчваць фактаў гвалту ў дачыненні да іншых людзей. Заклікаем вас далучыцца! — звярнуўся да беларусаў галоўны трэнер футбольнага клуба БАТЭ Віктар Ганчарэнка пасля пераможнага матчу БАТЭ—"Шахцёр" (Салігорск).

Кампанія белай стужачкі — найбуйнейшая сусветная мужчынская ініцыятыва па спыненні гвалту ў адносінах да жанчын. Штогод на працягу двух тыдняў з 25 лістапада хлопчыкі і мужчыны ў многіх краінах апранаюць белыя павязкі, якія азначаюць асабістае абяцанне не рабіць, не мірыцца і не маўчаць пра гвалт у адносінах да жанчын.

Гэтую кампанію пачала невялікая група мужчын у Канадзе ў 1991 годзе. З 2006 года да ініцыятывы далучаецца і Беларусь, у тым ліку вядомыя музыканты і спартсмены. Так, на працягу некалькіх гадоў кампанію белай стужачкі ў Беларусі ўзначальваў 15-кратны чэмпіён свету па муай-тай Андрэй Кулебін.

ЧУЛІ?

# «Вясну» пазбавілі офіса

*Судовыя выканаўцы Першамайскага раёна канфіскавалі кватэру Алеся Бяляцкага. Раней там быў офіс "Вясны". Бліжэйшым часам у кватэры з'явіцца новы гаспадар.*

## Як адбывалася высяленне



Трохпакаёвую кватэру ў 82 квадратныя метры з еўрарамонтам у цэнтры сталіцы на праспекце Незалежнасці ў так званай "сталінцы" ацанілі ў 105.000 доларaў. Яшчэ некалькі гадоў таму гэтая кватэра каштавала б значна даражэй, бо пік коштаў на другасным рынку жылля прайшоў. Але рыэлтары з трох кантор, з якімі мы звязаліся па тэлефоне, кажуць, што ў дадзеным выпадку кошт кватэры заніжаны. Такое жыллё сёння можна прадаць за 160.000 долараў з разліку па 2000 долараў за квадратны метр. Гэта самыя дарагія кватэры на сённяшні дзень.

Каму ж цяпер дастанецца гэтае жыллё? Ці атрымае кватэру шматдзетная сям'я?

Згодна з працэдурай, канфіскаваныя кватэры спачатку ацэньваюцца па рынкавых коштах, потым як мінімум у дзвюх газетах і на сайце Міністэрства юстыцыі размяшчаецца аб'ява аб правядзенні аўкцыёна. Аўкцыён у прызначаны для гэтага дзень праводзіць судовы выканаўца. Здаецца, усё зразумела.

Незразумелым застаецца пытанне: чаму "ацэншчыкі" вырашылі выставіць прывабную кватэру ў цэнтры сталіцы за такую цану — па 1280 долараў за квадратны метр, што на 55.000 долараў танней яе рынкавага кошту? За 55.000 долараў сёння ў Мінску недалёка ад цэнтра горада можна набыць прыстойную двухпакаёўку. Можа, у тых выпадках, калі размова ідзе пра канфіскаваныя кватэры, ёсць нейкі вызначаны паказчык, аднолькавы і для "сталінкі" ў цэнтры, і для "хрушчобы" на ўскрайку? Высветлілася, што гэта зусім не так. Сітуацыя парадаксальная — у судзе Савецкага раёна ў хуткім часе адбудзецца аўкцыён, на якім жадаючыя змогуць набыць аднапакаёвую "хрушчоўку" на вуліцы Куйбышава каля Камароўскага рынку за... 56.000 долараў. Калі б кошт кватэры разлічвалі, сыходзячы з 1280 долараў за квадратны метр, то яна каштавала б 38.400 долараў, а тут такая сума... Судовы выканаўца патлумачыў, што кватэру ацанілі па рынкавым кошце, гэта значыць улічылі, у якім яна раёне месціцца (прэстыжнасць мае значэнне), у якім яна стане і г.д. Сказаў, што цана можа быць крыху завышана, бо на таргах яе могуць знізіць да 20%. Але нават па такім кошце за 44.800 долараў прадаць аднапакаёвую "хрушчобу" каля Камароўкі будзе досыць праблематычна. Рыэлтары кажуць, што паспрабаваць, канешне, можна. Дык чаму аднапакаёвую "хрушчоўку" ў старым панэльным доме ацанілі толькі ў два разы танней за трохпакаёвую "сталінку", якая знаходзіцца ў прэстыжным месцы, побач з Батанічным садам? Каму гэта спатрэбілася? Ці дасць аўкцыён адказ на пытанне: "Хто стане ўладальнікам кватэры Алеся Бяляцкага?"

**Любоў ЛУНЁВА.**

КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР

## Развітанне

Судовыя выканаўцы прыйшлі ў "Вясну" раніцай у панядзелак. Усё адбывалася будзённа і без эксцэсаў.

Яны ўважліва праверылі спіс рэчаў, якія павінны былі там быць, і заўважылі, што замест двух пачкаў паперы "Снягурачка" была папера іншай фірмы. Давялося чакаць, пакуль праваабаронцы купяць і прынясуць паперу, пазначаную ў спісе. Прысутнасць журналістаў не засмуціла людзей у форме. Яны працавалі ў звычайным рэжыме.

*— Мы на сценах замацавалі кавалкі шпалер і напісалі на іх: "Свабоду палітвязням!", "Свабоду Алесю Бяляцкаму!", ""Вясна" вернецца" ды іншыя,* — распавяла Тацццяна Рэвяка. *— Арышт Алеся Бяляцкага, канфіскацыя кватэры і высяленне нас з офіса — гэта звёны аднаго ланцуга — справы, накіраванай на спыненне нашай працы. Але мы ўсё роўна будзем існаваць, толькі ў іншым месцы. Новаму ўладальніку кватэры не будзе тут спакою, бо не ўсе людзі ведаюць, што нас выселілі, і будуць яшчэ нейкі час сюды прыходзіць. Мы пакінулі надпіс новаму гаспадару: "Беражы кватэру, гаспадар хутка вернецца!"*

ПРОТЕСТ

# Турецкий вал?

*В одно прекрасное утро жильцы нашего дома (в том числе и моя семья) с удивлением и возмущением узнали, что буквально в тридцати метрах от наших окон будет возводиться уродливое высотное здание для турецкого отеля. Наш дом славен своими жильцами, в разное время проживавшими в нем, — боевыми генералами, политическими деятелями, прославленными олимпийцами и их тренерами... А уж сколько знаменитых людей в нем побывало — не хватило бы места на стенах для размещения мемориальных досок.*

*Наш дом, конечно никакой, особой архитектурной ценности не представляет, обычный жилой дом, но стоит он в историческом центре Минска — на пересечении трех улиц: Володарского, Городского вала и Интернациональной, рядом размещен памятник нашему великому земляку Адаму Мицкевичу. И это место отцы города любезно отдают... туркам. Нет, это не оскорбление другой нации, просто констатация, что в Беларуси перевелись великие зодчие и строители. Просто выглядит это нелепо в городе, где работали и работают замечательные зодчие, где создавались настоящие образцы великой архитектуры. Вспомните хотя бы некоторые из них: ансамбль домов на проспекте Независимости, Дом офицеров, Дом правительства, здание старой Ленинской библиотеки, уникальный памятник-мемориал в Хатыни...*

*Вот жильцы нашего дома и решили обратиться в организации, чьи интересы затрагивает это строительство турецкого отеля. Как ни странно, но первыми на наше письмо откликнулись работники Министерства образования. Однако, как мы увидели, наших уважаемых учителей и их руководителей ничуть не волнует факт, что в центре города строится новейший центр по распространению наркотиков, их моральное и физическое здоровье учеников мало волнует. Из Министерства пришел краткий, но весьма красноречивый ответ: наше письмо отправлено ... в Мингорисполком.*

*Я же отправляю отчаянный крик жильцов нашего дома в солидную газету.*

# Открытое письмо

***Администрация Президента Республики Беларусь,***
***Мингорисполком, Администрация Московского района г.Минска,***
***Министерство внутренних дел РБ, Министерство здравоохранения РБ,***
***Министерство образования РБ, Союз архитекторов РБ.***

Мы, жильцы дома №9 по улице Городской вал, с возмущением узнали, что на месте автостоянки МВД РБ некая турецкая фирма собирается возводить гостинично-развлекательный комплекс без согласования и обсуждения этого проекта с нами, людьми, которых это строительство непосредственно касается. Минск — это наш родной город, и нам далеко не безразлично, какие дома будут его украшать, а какие — уродовать.

Строительство комплекса планируется в историческом центре Минска — на пересечении улиц Городской вал, Интернациональной и Володарского. И, если судить по макетам, само здание не может вписаться в это историческое место, где столько памятников архитектуры — Пищаловский замок (ул.Володарского), комплексы жилых и административных зданий конца XIX — начала XX веков на улицах Интернациональной, Революционной, Городской вал (здание МВД, старейшее в стране пожарное депо), сквер с памятником нашему великому земляку Адаму Мицкевичу (кстати, единственный сохранившийся в центре города уголок природы).

Так как с нами никто не советовался, не спрашивал нашего мнения, нужен ли нам этот комплекс, мы обращаемся во всевозможные организации, способные хоть както повлиять на это пагубное для нашего города решение, ибо в администрации Московского района г.Минска нас не хотят выслушать, даже телефон отключили.

Да, мы понимаем, что такое ведомство, как Министерство внутренних дел, не может обходиться без транспорта, и миримся с тем, что не только автостоянка, но и весь наш двор забит автомобилями. А что будет, когда вместо удобной и близкой автостоянки там появится уродливое здание, тем более что пока не известно, какие дополнительные сооружения строители собираются втиснуть в этот кусочек городской земли. Быть может, городу или министерству было бы выгоднее использовать эту землю и построить не очень высокое, но красивое здание для паркинга? Или сотрудникам и руководству министерства придется бегать за пять-шесть кварталов при необходимости срочно куда-то выехать?

Много лет рядом с нами был знаменитый родильный дом, в котором родились не менее половины сегодняшних жителей Минска. Потом его переоборудовали в специальный центр для умственно отсталых детей. Возможно, место для такого центра и не самое хорошее, тем более что улица Володарского очень перегружена транспортом, а это не только шум, но и выхлопные газы, которые вряд ли полезны больным детишкам. А теперь представьте себе, дорогие доктора, что в тридцати метрах от вашего центра будет день и ночь греметь музыка нескольких дискотек! Каждый врач знает, что низкочастотные колебания очень вредны для людей, они вызывают состояние депрессии и прочие неприятные явления. И вот эти сверхмощные усилители будут круглосуточно выдавать "на гора" через культурно-развлекательный комплекс не отдельные брызги низкочастотного излучения, а целые его реки. Как это скажется за здоровье и без того больных детей? Просим вас, уважаемые доктора, подумать об этом.

Как известно, во многих странах мира и даже в России игорные заведения объявлены нежелательными в крупных городах, для них созданы специальные зоны. И это правильно, так как не могут соседствовать школа и казино, пивная и детский сад. И мы считаем, что для вас не секрет, что наибольшее количество наркотиков, распространяемых среди школьников, происходит в дискотеках. Но они в нашем городе в основном находятся в спальных районах, а тут в самом центре города открывается простор для сбыта наркотической дури. Если учесть, что строить его собирается какая-то турецкая компания, то приехавшие сюда рабочие привезут и собственные пагубные привычки, так что "дурь" начнет распространяться еще задолго до окончания строительства. И первыми в орбиту этих восточных рабочих попадут дети нашего дома. Потому мы и протестуем против этого строительства.

Мы знаем, что в Минске ведутся большие реставрационные работы, строятся новые районы и т.д. Но как мог Союз архитекторов утвердить проект такого нелепого, тяжеловесного, безвкусного здания, мы не понимаем. Мы также понимаем, что в жизни каждого творческого человека есть свои вершины и свои провалы. Это неизбежно, это жизнь. Но в нашем случае строительство такого нелепого здания, скорее, вызов всему городу — вот, мол, что захотим, то и построим. В некоторых районах это видно невооруженным глазом, когда отливающее синим цветом стекло заменяет творческим людям их же собственный вкус. Ведь народ всегда дает прозвища наиболее одиозным архитектурным сооружениям. Торговый дом на Немиге, ради которого была уничтожена чудесная улица Немига, именуют "кирпич на боку", ко Дворцу Республики на Центральной площади навсегда прилипло прозвище "саркофаг", новая Национальная библиотека мало того, что получила у минчан очень обидное прозвище "чупа-чупс", так еще умудрилась попасть в первую сотню самых нелепых архитектурных "шедевров" XX века. Стоит ли добавлять к этой не очень приятной традиции еще одно далекое от современной эстетики здание?

Мы выступаем с этим обращением, подписываем его и отправляем по разным адресам. Но нас мало, наш дом не так уж и велик, зато мы верим в вас, дорогие горожане, в то, что и вы не останетесь в стороне и выступите в меру ваших сил и возможностей против строительства турецкого отеля в историческом центре древнего Минска.

*(Более сотни подписей жильцов дома №9 по ул.Городской вал, сбор подписей продолжается.)*

**P.S.** Когда я заселился в этот дом в начале 1962 года, то он стоял еще на улице Урицкого, а на доме была доска с надписью, что улица названа в честь Соломона Моисеевича Урицкого. И получилось очень смешно, так как соседняя улица именовалась в честь Моисея Соломоновича Володарского. Мой брат и я часто показывали эти доски нашим гостам, те смеялись и задавали резонный вопрос: "А какое отношение имеют Моисей Соломонович и Соломон Моисеевич к Беларуси и, в частности, к Минску?" На этот вопрос ни у моего брата, ни у меня ответа не было...

В девяностые годы мою улицу переименовали в Городской вал. Название неплохое, нам нравится, но не пришлось бы улицу переименовывать еще раз... Например, в Турецкий вал...

**Виктор ЛЕДЕНЕВ, писатель, драматург.**

**От редакции. 22 ноября в исполкоме Московского района столицы прошло общественное обсуждение запланированного строительства 16-этажного отеля на углу улиц Володарского и Городской вал, на котором жители микрорайона, специалисты Министерства культуры, представители турбизнеса и архитекторы-реставраторы высказались против этого проекта. Жители возмущались, что большое здание на фоне 3—4-этажных строений внесет диссонанс в общую картину исторической части столицы. Кроме того, огромный отель с казино и ресторанами ухудшит и без того сложную ситуацию на дорогах в этой части города, где почти каждый день даже не в часы пик образуются пробки. На заседании присутствовали представители исполкома, а также инвестор Филипп Исаев, который последние два года живет в Беларуси. Он сказал, что не настаивал на строительстве отеля именно в этом месте. Это городские власти предложили этот кусок земли, "поскольку другие уже раздали другим инвесторам".**

НУ І НУ!

## Хачу расказаць пра глупства...

Як вядома, Міністэрства аховы здароўя зрабіла больш жорсткімі правілы продажу лекаў, большасць з якіх зараз прадаецца толькі па рэцэптах. Спасылаюцца яны на замежны вопыт, хаця сутнасць гэтага "вопыту" ў тым, што там па рэцэптах лекі значна дзешавейшыя, чым без іх, бо часткова іх кошт кампенсуюць страхавыя кампаніі. У нас гэтага важнага ўдакладнення не зрабілі, а вось пра тое, што перанімаем, — адрапартавалі.

Але я нават не пра гэта хачу напісаць. Пайшла я купляць просценькія таблеткі ібупрафен, мне пры абвастрэнні боляў у суставах добра дапамагаюць.

У аптэцы кажуць:

— Няма.

— Тады дайце "Ібуклін".

— "Ібуклін" па рэцэпце.

— Дык гэта ж ібупрафен і ёсць.

— Не, гэта ібупрафен з парацэтамолам.

— Дык што, і парацэтамол ужо па рэцэпце?

— Не, толькі "Ібуклін", а паасобку — калі ласка, купляйце.

Ну як называецца такое рашэнне чыноўнікаў ад Мінздрава?! Ну ці не глупства, якое проста псуе людзям жыццё і дадае праблем?!

**Наталля САВОСЦЕНКА.**

*Мінск.*

РАКУРС

## Уладзімір СЯМАШКА: «У мяне гадзіннік усяго за 200—300 долараў»

Пасля таго, як на руцэ кіраўніка беларускага ўрада быў заўважаны гадзіннік, які ў мінскіх крамах прадаецца па цане больш за 317 мільёнаў рублёў, тэма чыноўніцкіх гадзіннікаў стала асабліва актуальнай.

Днямі першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка браў удзел у адкрыцці магазіна гадзіннікаў "Luch Store". Натуральна, журналісты не маглі не запытацца пра цану яго гадзінніка.

Сямашка, як і варта было чакаць, ухваліў новыя мадэлі гадзіннікаў "Луч", прадстаўленых у магазіне, але прызнаўся, што свой гадзіннік мяняць не збіраецца.

— У мяне свой гадзіннік добры, мне такія падабаюцца, — Уладзімір Сямашка не назваў марку. — Ён не каштуе некалькі тысяч долараў, можа быць, долараў 200—300. Я нашу яго ўжо гадоў шэсць і не адмаўляюся.

**Алена НОВІКАВА.**

ДОБРАЯ НАВІНА

## Будзем з мёдам

*У 2012 годзе лясгасамі краіны выраблена 73,1 тоны таварнага мёду, што на 4,2 тоны больш, чым летась.*

Аб гэтым БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Міністэрства сельскай гаспадаркі.

Найбольшыя аб'ёмы мёду вырабілі лясгасы Мінскай і Брэсцкай абласцей — 25 і 19,1 тоны адпаведна. Лясгасамі Віцебскай і Магілёўскай абласцей выраблена 11,4 і 7,1 тоны адпаведна, у Гродзенскай вобласці — 5,5 тоны, у Гомельскай — 5 тон.

Рэнтабельнасць пчалярства ў лясгасах галіны вагаецца ад 20% да 45%.

Сёлета ў арганізацыях Мінлясгаса павялічылася колькасць пчоласем'яў, у 2011 годзе іх налічвалася 6929, на сёння — 7173. Набыта 929 вулляў, 48 платформ, 2,6 тоны вашчыны і 1275 плодных пчаліных матак.

Дарэчы, да 2015 года лясгасы маюць намер мець 9773 пчоласям'і і вырабляць прыкладна 200 тон таварнага мёду. Такія паказчыкі закладзены ў праграме развіцця пчалярства ў арганізацыях Мінлясгаса да 2015 года. Згодна з планам, калі на пачатак 2012 года выход таварнага мёду на адну пчоласям'ю ў сярэднім па галіне складаў 8 кг, то да 2015 года гэты паказчык павінен дасягнуць 20,5 кілаграма.

### *Генадзь БУРАЎКІН*

# *Новыя вершы*



***

Даўно мне ўсё з маёю доляй ясна.
Я ўжо засвоіў ісціну адну,
Што сёння я
Трагічна несучасны
І што мой час
Бязлітасна мінуў.

У жорсткі век махлярства і адкатаў,
Калі падман паўзе з усіх куткоў,
Чакаць няварта
Літасці ад катаў
І міласэрнасці ад жабракоў.

Усё ў жыцці цяпер ідзе іначай,
І ладзяць баль
Нахабства і “бабло”.
Грахі і прымхі маладосці нашай
Сышлі ў нябыт,
Як іх і не было.

Не веру,
Што ўратуюць ад адчаю
Маю душу
Ці поп,
Ці муэдзін...
Адно мяне хоць трохі суцяшае,
Што я такі на свеце не адзін...

***

У заспаным нашым тубыллі,
У краіне маральных калек
Мяне многія не любілі
Між начальнікаў і калег.

Калі ўсе яны ў лідары пёрлі,
Не атросшы з гумовікаў гной,
Быў я ім,
Нібы костка ў горле,
Са сваёю праўдай дурной.

Не прымаў я іхніх хімераў,
Заварожана ў рот не глядзеў
І наіўна ў законы верыў
І ў спрадвечную мудрасць людзей.

І яны мяне не забілі,
На мой дом не паслалі мор —
Проста выгляд аднойчы зрабілі,
Што я ціха дачасна памёр.

І хаця я здаюся паганцам
Іх разбэшчанаму кумаўю,
Усё ж мусяць яны азірацца
На скептычную ўсмешку маю...

***

Жыццё людское —
Вечная загадка,
Спакус і бед зямны кругазварот.
Усім здаецца:
Будзе ўсё ў парадку.
А робіцца зусім наадварот.

У шумнай палітычнай валтузні
Задушаны
Спагада і пяшчота,
А ў сэрцах маладых,
Як ні зірні,
Варушацца сумнеў і адзінота.

Дарма шукае кволая рука
Ад рамантычнай каравелы снасці,
І часу віратлівая рака
Усё далей адносіць
Човен шчасця.

А хочацца ж,
Каб ладна ўсё было —
Праклaсці ў полі роўныя барозны
І разарваць цяжкіх нягод сіло...
Адно —
Каб не было занадта позна...

***

*“Вітаю вас на вашай беларускай зямлі”.*
*А.Лукашэнка —*
*высокім маскоўскім гасцям.*

Чыя ты,
Беларуская зямля?
Мая,
Дзе прадзед мой араў і сеяў,
Ці ўладароў маскоўскага Крамля,
Наступнікаў цароў і фарысеяў?

Чые вы,
Лес,
Гасцінец
І рака?
Мае,
Дзе я ў дзяцінстве бегаў босы,
Ці хцівага суседа-спрытняка,
Што і скарынку выцягне з-пад носа?

І хто мы,
Люд азёрнай стараны,
Пакутным лёсам да балот прыкуты —
Сваёй Радзімы годныя сыны
Ці дробныя бязродныя манкурты?..

І вось ужо
Разгублены рэжым
Гандлюецца ў Брусселі ці ў Пекіне,
Як што прадаць,
Як што аддаць чужым
(Сваім хіба што могілкі пакіне).

І малітоўна паўтараю я,
Як запавет,
Як вернасці прысягу:
Ты,
Беларуская зямля, —
Мая,
Куды аднойчы я навекі лягу!

***

З гразі ў князі прабіцца —
ах! —
Як цяжка кожны раз!
Але куды страшнейшы шлях
Назад —
З князёў у гразь.

Калі былыя сябрукі,
Цяперашняя знаць,
Не падаюць табе рукі
І ў вочы не глядзяць.

Калі злой зайздрасці глыжы
Услед ляцяць наўпрост
І ўсё,
Чаму, як мог,
Служыў,
Ідзе кату пад хвост.

Ты не заўважыў сам,
Як сціх
І твой запал,
І гнеў
І нечакана ты для ўсіх
Здурнеў
І змізарнеў...

Дык не пакеплівай з гразі
І ў мітусні людской,
Не надта кідайся ў князі,
А будзь самім сабой.

***

Робіцца страшна ад новых законаў.
Хочацца збегчы ад родных загонаў.

Хочацца ў нетрах пушчанскіх згубіцца
І на ліхія нягоды забыцца.
І адшукаць кветку-папараць тую,
Што ад бядотнага лёсу ўратуе...

Толькі хіба я знайду сабе месца,
Дзе без трывогі і п’ецца, і есца,
Дзе усе ўрочышчы, сцежкі і ўзлессі
Болей не чуюць сірочыя песні
І далятае ад кожнай хаціны
Гоман бяседны
І шчэбет дзяціны?

Ох, не схавацца ад родных загонаў
І не ўцячы ад выродных законаў...

***

Ці то аб’еўшыся дзярма,
Ці, можа, ад нішчымніцы
Звяглівых крытыкаў гайня
Да нас у суддзі шчыміцца.

У вольх абгрызена кара,
На ўсходзе неба шэрае —
За ўсё ім хочацца караць
Нас самай жорсткай мераю.

Для іх
І нашых душ святло
Заслонена парфірамі.
Малітвы нашыя
І то
Здаюцца ім няшчырымі.

Ім нашых лёсаў не шкада.
Усё нам карай грозяцца.
І дзе віна,
А дзе бяда —
Для іх ніякай розніцы.

І гнеў іх
Можа распаліць
Старая наша слава.
А што былое нам баліць —
Ім проста нецікава...

***

Смешныя,
Наіўныя начальнікі,
Вы не зразумееце ніяк,
Што даўно ўжо
Слепа
І адчайна
Гоніце па рэйках паражняк.

На далёкіх гулкіх перагонах
Людзі ўслед яму глядзяць дарма,
Бо ў яго зачыненых вагонах
Столькі год нікога ўжо няма.

Назаўжды замкнёны ўсе клазеты,
А ў купэ
Варушаць скразнякі
Хіба што пажоўклыя газеты
Ды з-пад цукру цвілыя мяшкі.

Міма семафораў,
Самапасам
Коціцца цягнік
У пустату.
І ляціць над намі
І над часам
Хрыплае, тужлівае “ту-ту”...

***

Куды ні рвуся
З добрымі намерамі,
Глухі тупік ніяк не абміну.
Разгублены,
Знясілены,
Зняверaны,
Усюды патрапляю на ману.

Ці знізу мкне,
Ці зверху навісае
Халодная, нябачная сцяна.
І з-за яе
Дурнымі галасамі
Мне паграже хіжая мана.

Яна на вочы ліпне павуцінай,
Кідае ўслед паклёпу камякі
І грозна шчэрыць
З лютасцю звярынай
Затупленыя прагнасцю клыкі.

Нахабная,
Бязлітасна-тупая,
Не спыніцца яна ні перад чым...
І ўжо ніякай праўды не хапае,
Каб гэтую ману перамагчы.

***

Чаго толькі не шле на чалавека
Бязлітасны і непахісны лёс:
І рак,
І вечных стрэсаў небяспеку,
І забываны ўжо туберкулёз.

За што такая чорная навала,
Хто гэтак перад Богам награшыў,
Што ўжо былых пакут і войнаў мала,
Каб зняць віну аблудную з душы?

Усё часцей,
Як сеткай павучынай,
Нас аплятае
Перад смерцю страх.
І дзе яна,
Галоўная прычына —
У ворагах,
У снах,
У дактарах?

Шукаем мы па свеце
Цуда-лекі
І нават не бяром да галавы,
Што чэзнуць пушчы
І мялеюць рэкі,
І сенажаці сохнуць без травы.

А як было б і правільна,
І добра,
Каб мы нарэшце пачалі лічыць,
Што,
Перш чым нашы вылечыць хваробы,
Зямлю-матулю трэба палячыць!..

**ДАСЬЕ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»**

**Генадзь Мікалаевіч БУРАЎКІН**

Нарадзіўся 28 верасня 1936 года ў вёсцы Шуляціна (цяпер в.Тродавічы) Расонскага раёна Віцебскай вобласці ў сям’і служачага.

Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ (1959). Працаваў у часопісе “Камуніст Беларусі”, у газеце “Літаратура і Мастацтва”, быў карэспандэнтам “Праўды” па Беларусі, галоўным рэдактарам часопіса “Маладосць”. З 1978 Г.Бураўкін — старшыня Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. У 1990-м атрымаў прызначэнне пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ААН, але ў 1993-м звярнуўся да старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з просьбай аб вызваленні ад гэтай пасады.

Пасля вяртання, у 1994—1995 гадах, быў намеснікам міністра культуры і друку. У 1995—2001 гг. працаваў у часопісе “Вожык”.

Першыя свае вершы ён надрукаваў у полацкай абласной газеце ў 1952 годзе. Пазней выйшлі яго кнігі “Майская просінь” (1960), “З любоўю і нянавісцю зямною” (1963), “Дыханне” (1966), “Жніво” (1971), “Выток” (1974), “Варта вернасці” (1978), “Гняздо для птушкі радасці” (1986). Аўтар зборнікаў паэзіі “Узмах крыла” (1995), “Паміж зоркай і свечкай” (2000), кніга “Выбранае” (1998). Вершы канца XX ст. склалі зборнік паэта “Жураўліная пара” (2004). Надзвычай багатая і разнастайная інтымная лірыка паэта ўключалася ва ўсе яго зборнікі, але асобна сабрана ў кнігах “Пяшчота” (1985) і “Чытаю тайнапіс вачэй” (2001). На вершы Г.Бураўкіна напісана шмат папулярных песень (“Белы снег”, “Зачараваная”, “Матылі”, “Малітва” і інш.). У паэта ёсць зборнік песенных тэкстаў “Табе, Беларусь” (1984). “Калыханку” на словы Г.Бураўкіна кожны вечар па тэлебачанні пяюць малым Беларусі. Аўтар двух кніг паэзіі для дзяцей “Тры казкі пра Зая” (1974) і “Сінія арэлі” (1987), дакументальных аповесцяў “Тры старонкі з легенды” (1971). Выступае ў друку з нарысамі, публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі. Аўтар сцэнарыяў некалькіх дакументальных фільмаў, двухсерыйнага мастацкага фільма “Полымя” (1974, сумесна з У.Халіпам і Ф.Коневым). Перакладае на беларускую мову вершы рускіх, украінскіх, малдаўскіх, балгарскіх паэтаў.

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1972), Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы за кнігу “Варта вернасці” (1980).

**ТРАГЕДЫЯ**

## *У Баранавічах дзяўчыну сапхнулі з даху*

*Здарэнне, якое адбылося ў Баранавічах, яшчэ раз даказвае, якая тонкая мяжа паміж забойствам і самагубствам.*

Цела 17-гадовай навучэнкі аднаго з баранавіцкіх прафліцэяў знайшлі вечарам 30 верасня каля недабудаванага будынка па вуліцы 50 гадоў ВЛКСМ. Першапачаткова адной з асноўных версій у следства быў суіцыд, аднак пасля праведзенай праверкі следчыя прыйшлі да высновы, што дзяўчыне “дапамаглі” зваліцца з даху.

“Па папярэдняй версіі, непаўнагадовы гараджанін, які на той момант быў п’яны і знаходзіўся разам з пацярпелай на даху, у ходзе сваркі адштурхнуў ад сябе дзяўчыну. У выніку яна страціла раўнавагу і звалілася з даху, атрымаўшы траўмы, ад якіх памерла”, — паведамілі ў Баранавіцкім гарадскім аддзеле Следчага камітэта.

Падазроны затрыманы. У дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа па арт.144 КК РБ (прычыненне смерці па неасцярожнасці), якая прадугледжвае пакаранне ад папраўчых работ на тэрмін да двух гадоў да пазбаўлення волі тэрмінам да трох гадоў.

**ЧУЛІ?**

## *Будаўніцтва «Бульбашъ-хола» прыпынена*

*Прадстаўнікі Міністэрства культуры і Генпракуратуры выязджалі на месца будаўніцтва забаўляльнага комплексу ў Курапатах і выявілі парушэнні.*

Сенсацыйны адказ на заяву ўдзельнікаў “круглага стала” “Абаронім Курапаты” пра недапушчальнасць будаўніцтва “Бульбашъ-хола” ля крыжоў ва ўрочышчы Курапаты атрымала арганізатар мерапрыемства Ганна Шапуцька. У адказе за подпісам намесніка міністра культуры Віктара Кураша паведамляецца:

“Падчас выезду на месца выяўлена, што работы праводзяцца часткова ў ахоўнай зоне гісторыка-культурнай каштоўнасці. Пры гэтым іх выкананне ажыццяўляецца без дазволу Міністэрства культуры...

Міністэрствам культуры выдадзена прадпісанне заказчыку работ СТОО „Белрэстінвест” і Мінаблвыканкаму аб спыненні работ у зоне аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці...”

Ганна Шапуцька адзначыла, што падпісанты звароту, сярод якіх былі такія паважаныя людзі, як гісторыкі Ігар Кузняцоў і Зміцер Дрозд, былы вязень лагераў Сяргей Ханжанкоў і іншыя, таксама прасілі Мінкульт пра асабістую сустрэчу. Гэтую просьбу чыноўнікі праігнаравалі.

Дарэчы, адказ не азначае, што забаўляльнаму комплексу ў Курапатах не быць. З адказу вынікае, што “аднаўленне работ будзе магчыма пасля забеспячэння адпаведнасці праектнай дакументацыі і прававым нормам”. Але першы крок, падаецца, зроблены.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**ЗДАРЭННЕ**

## *Беларус хацеў паразмаўляць з патрыярхам Кірылам*

*У выніку мужчына ледзь не сарваў нядзельную службу ў храме Хрыста Збаўцы ў Маскве, якую вёў патрыярх Кірыл.*

Як піша “Московский комсомолец”, інцыдэнт здарыўся 25 лістапада каля 12.40 у галоўным храме Масквы. Служба ўжо падыходзіла да канца, калі адзін з вернікаў пачаў паводзіць сябе дзіўна. Па словах відавочцаў, мужчына, якому на выгляд было каля 60 гадоў, стаў нешта гучна выкрыкваць, патрабаваў прапусціць яго да патрыярха.

Супрацоўнікі службы аховы адразу ж скруцілі дзіўнага чалавека, вывелі на вуліцу і перадалі паліцыянтам. Аднак мужчына не супакоіўся і ў аддзяленні паліцыі. Таму давялося выклікаць нарад хуткай псіхіятрычнай дапамогі і перадаць затрыманага ў рукі спецыялістаў. Вядома, што мужчына з’яўляецца грамадзянінам Беларусі.

**ДЗІКУНСТВА**

## *Жыхар Віцебска спаліў сужыцельку ў яе кватэры*

Крымінальная справа за забойства распачата Першамайскім аддзелам Следчага камітэта па Віцебску ў дачыненні да 38-гадовага жыхара абласнога цэнтра.

Мужчына, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап’янення, падчас сваркі з 33-гадовай сужыцелькай... падпаліў кватэру. У выніку жанчына загінула. Яе 14-гадовы сын ды і сам сужыцель з апёкамі змешчаны ў бальніцу.

Ці гэта каханне такое вялікае, ці мазгі зусім адпітыя?..

**КРИМИНАЛ**

## *Ходовой товар*

*Владелец ООО “Ханой-Инвест” погорел на фиктивных браках*

Главное управление по борьбе с организованной преступностью (ГУБОП) МВД заинтересовалось деятельностью Ле Хонг Фонга — владельца крупнейшего в стране вьетнамского бизнеса — ООО “Ханой-Инвест”.

ООО “Ханой-Инвест” — самая известная в Беларуси компания, созданная выходцами из Вьетнама. Учредителя компании называют не только владельцем крупнейшего вьетнамского бизнеса в Беларуси, но и покровителем вьетнамской диаспоры в стране.

Интерес, который проявил к влиятельному вьетнамцу ГУБОП МВД, связан не столько с его бизнесом, сколько с взаимоотношениями с вьетнамской диаспорой.

По данным правоохранительных органов, учредитель ООО “Ханой-Инвест” в 2005—2009 годах организовал заключение 12 фиктивных браков между гражданами Вьетнама и Беларуси.

Как считают в МВД, браки заключались исключительно с целью получения иностранными гражданами разрешения на постоянное место жительства в Республике Беларусь.

По данным фактам Следственным комитетом в отношении Ле Хонг Фонга возбуждено уголовное дело по ч.2 ст.371-1 Уголовного кодекса Беларуси (организация незаконной миграции, совершенная повторно либо группой лиц по предварительному сговору).

Ведется расследование.

**ПАНТЭОН ГЕРОЯЎ**

# Што вы ведаеце аб Слуцкім паўстанні?

*27 лістапада 1920 года адбылося масавае выступленне беларусаў супраць Савецкай улады ў раёне Слуцка.*

*Частка беларускага грамадства адзначае гэтую дату як Дзень Героя, а некаторыя гісторыкі лічаць, што падзея 1920 года павінна адзначацца на дзяржаўным узроўні.*

*“Народная Воля” пацікавілася, што ведаюць беларусы пра гэты дзень.*




*Актывісты Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, а таксама неабыякавыя да беларускай гістарычнай спадчыны людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі, кветкамі, вянкамі і знічкамі традыцыйна вандруюць па месцах баёў слуцкіх паўстанцаў з войскамі Чырвонай арміі.*

*Некалькі дзён таму, як паведамляе Радыё Свабода, удзельнікі ўрачыстасцяў наведалі вёску Грозава.*

**Ганна СЕВЯРЫНЕЦ, выкладчык Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва:**

— Слуцкае паўстанне — гэта напамін пра тое, што беларусы не заўсёды былі тым маўклівым і засмучаным статкам, якім яны падчас падаюцца сёння. І адначасова — папярэджанне: мы — цярплівыя, але не бясконца. У кожным беларусе чакае свайго часу слуцкі Герой — і крый Божа нам забіць яго ў сабе.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта на выбарах 2010 года, вядомы паэт:**

— У маім разуменні гэтая падзея хутчэй духоўнага кшталту, чым гістарычнага. Канешне, гістарычны факт быў, але ён якраз выявіў моц і сілу духу беларусаў у іх памкненні здабыць тое, што ёсць воля, што ёсць свабода. Бо вельмі шмат народаў, як з Поўдня, так і з Захаду і Усходу, даводзілі, што беларусы наогул такога памкнення не маюць па той прычыне, што не з’яўляюцца народам, нацыяй. Аднак Слуцкае паўстанне паказала адваротнае, і для мяне асабіста ў гэтым яго найпершая вартасць.

**Ігар ІЛЬЯШ, журналіст газеты “Белорусы и рынок”:**

— Слуцкае паўстанне — важны прыклад нацыянальнай самаарганізацыі беларусаў. Прыклад, якім мы можам і павінны ганарыцца. Перафразуючы Буніна, можна сказаць: што гэта было б, куды б мы вочы дзявалі, калі б не было ў нашай гісторыі “слуцкіх паўстанняў”? Аднак мы не павінны перабольшваць агульнагістарычнай значнасці гэтай падзеі. Па маштабах, размаху, працягласці і рэзанансе Слуцкае паўстанне ніяк не можа параўнацца з Тамбоўскім паўстаннем у Расіі ды і многімі іншымі паўстаннямі, якія разгортваліся ў тыя гады на тэрыторыі былой Расійскай імперыі. Слуцкае паўстанне — гэта важная дата менавіта для нас, у кантэксце развіцця менавіта беларускай нацыі, яе самасвядомасці і гісторыі. У агульнагістарычным жа маштабе гэтая падзея ўяўляецца далёка не такой значнай, гэта трэба разумець, каб залішне не міфалагізаваць гэтую дату.

**Сяргей СЕМЯНЮК, актывіст Партыі БНФ:**

— Слуцкі збройны чын займае вялікае месца ў беларускай гісторыі, таму што гэтае паўстанне было дзеля таго, каб зрабіць Беларусь сапраўды беларускай, са сваёй беларускай уладай. У гэтым сэнсе Слуцкі збройны чын яшчэ не скончыўся, зараз назіраецца больш спакойная ягоная фаза, таму што змаганне за незалежнасць, за беларускую ўладу не скончана. Але ўсяму свой час.

Улада ў Беларусі зацікаўлена ў тым, каб заціраць такія важныя даты ў беларускай гісторыі. Таму наша задача як незалежнага грамадства, як тых, хто падзяляе ідэалы Слуцкага збройнага чыну, — расказваць насельніцтву, якое не ведае аб ім, як пачыналася паўстанне, якія мэты ставіліся і чым усё скончылася.

**Паліна РЭСПУБЛІКА, спявачка:**

— Я лічу Слуцкае паўстанне адной з найяскравейшых падзей XX стагоддзя ў гісторыі Беларусі. Менавіта таму, што тады вельмі моцна праявіліся беларуская духоўнасць, нацыянальны дух. Канешне, гэтая дата павінна адзначацца на высокім ўзроўні. На жаль, цяперашняй уладзе нявыгадна папулярызаваць і падтрымліваць такія падзеі.

**Віктар ЮРАНАЎ, праграміст:**

— Не ведаю аб гэтым паўстанні. Гісторыяй ніколі не цікавіўся, таму не адкажу на пытанне.

**Алеся ТАРАНДА, майстар па манікюры:**

— Не ведаю нічога пра гэтую дату, я ў школе гісторыю не вельмі любіла.

**Аляксей ХУРС, кіроўца:**

— Гэта адна з самых значных падзей у мадэрновай гісторыі Беларусі. Падзея, якая з’яўляецца неад’емнай часткай працэсу — станаўлення беларускай нацыі. Менавіта Слуцкае паўстанне было адзінай падзеяй пачатку XX стагоддзя, калі воля народа да дзяржаўнага будаўніцтва, да незалежнасці рэалізавалася ў канкрэтных вайсковых дзеяннях. Гэтая дата павінна заняць сваё месца ў дзяржаўным пантэоне значных падзей. Тыя людзі варты, безумоўна, ушанавання і ўганаравання. На жаль, Слуцкае паўстанне сёння забыта, схавана і для большасці людзей не вядома.

**Зінаіда ЦІМОШАК, грамадская актывістка:**

— Слуцкае паўстанне павінна займаць вартае месца ў гісторыі Беларусі, а не тое, што займае зараз.Такіх прыкладаў, калі людзі змагаліся за сваё жыццё, маёмасць, за будучыню краіны, у нас няшмат. Слуцкае паўстанне — спроба не дапусціць тых жахлівых перыядаў гісторыі, якія наступілі потым. На жаль, спроба не ўдалася. Акрамя гэтага, Слуцкае паўстанне — адзін з момантаў, на якім можна выхоўваць моладзь, гэта значны прыклад мужнасці. Трэба распаўсюджваць інфармацыю аб гэтай падзеі сярод насельніцтва.

**Юрась ГУБАРЭВІЧ, намеснік старшыні руху “За Свабоду”:**

— Я лічу гэтую падзею адной з важнейшых у гісторыі Беларусі таму, што на этапе станаўлення беларускай дзяржавы паўстанне было адной з праяў таго, што беларусы мелі волю да нацыянальнай барацьбы, да таго, каб мець уласную дзяржаву. Яны былі гатовы абараняць здабыткі, у тым ліку і ўзброеным чынам. Таму, калі ў нас будуць нармальная ўлада і дзяржава, якая шануе свае нацыянальныя падзеі і вядзе гісторыю не з 1941 года, то Слуцкі збройны чын зойме адно з належных месцаў у нашай гісторыі.

**Павел ВІНАГРАДАЎ, актывіст грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду!”:**

— У кожнай паважаючай сябе краіны, у краіны з гісторыяй ёсць і, напэўна, павінны быць святы, якія паказваюць, што можа войска краіны. Але я лічу, што любыя ўзброеныя канфлікты — гэта зло. Пры такіх канфліктах гінуць жаўнеры і людзі, якія ні ў чым не вінаватыя, якім няма выгады ад вайны. Слуцкі ўзброены чын — свята беларускай зброі.

Іншая справа, што Беларусь можа згубіць сваю дзяржаўнасць і адпаведна сваю гісторыю. У беларусаў слаба развіта самасвядомасць, у адрозненне, напрыклад, ад палякаў ці ўкраінцаў. Я спадзяюся, што дрэннага не адбудзецца і беларусы пачнуць усведамляць сябе беларусамі, а не часткай Расіі ці Польшчы. Бо з-за адсутнасці ведаў па гісторыі і самасвядомасці насельніцтва мала што ведае аб Слуцкім паўстанні...

**Валянціна ЛЕБЕДЗЕВА, гісторык:**

— Слуцкае паўстанне — важны прыклад барацьбы за незалежнасць. У рэйтынгу змагання гэтая падзея на першых пазіцыях. На жаль, гістарычная памяць беларусаў вельмі слабая, і гэта агульнавядомы факт. Тэма Слуцкага паўстання ў школьных падручніках і медыйнай прасторы фактычна не згадваецца, таму беларусы мала ведаюць аб ім (а некаторыя ўвогуле не ведаюць). Таксама ў сённяшнім грамадстве няма паняцця ведаў, а ёсць паняцце інфармацыі. Сённяшнія людзі наогул мала чаго ведаюць...

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Михаил МУСТЫГИН:*

# «У меня ноги отнялись бы, если бы я увидел, что на игру пришло 500 болельщиков!»

*Легендарному белорусскому футболисту Михаилу Мустыгину, имя которого в 60-е годы знал каждый болельщик, не так давно исполнилось 75. Михаил Михайлович в последнее время ушел от городской суеты и живет сейчас в деревне под Минском, где его и навестил корреспондент «Народной Воли».*

...Михал Михалыч встречает меня на пороге своего скромного домика. Сюда он переехал из минской однокомнатной квартиры более десяти лет назад. Объясняет, что здесь более комфортно. Да и с хозяйкой Марией Ивановной живут душа в душу. Но начинает мой собеседник, естественно, с воспоминаний о прошлом:

— Я, как и Эдуард Малофеев, родом из Коломны. Когда мальчишкой был, с мячом постоянно возился, полюбил футбол уже тогда. Все свободное время за этим проводил. А зимой на коньках гонял, в догонялки-колдунчики играли. Отец паровозы делал, мама в детском саду работала, а я решил серьезно футболом заняться. И в 16 лет попал в юношескую команду Коломны. Через год перешел во взрослую команду "Авангард", когда призвали в армию, уехал играть за ЦСКА. Впрочем, играть — это слишком громко сказано. В основном штаны на скамейки запасных протирал. Тренер выпускал на поле на пару минут, а что можно показать за такое время? Дело в том, что я же тогда был еще молодой, а ЦСКА собирал два-три равноценных состава, лучших футболистов-призывников со всего Союза. Но время я провел не зря. Именно там мне дал футбольные азы Всеволод Михайлович Бобров, который работал тренером в ЦСКА. Это на самом деле Мастер! После службы меня оставляли в ЦСКА, но я не хотел сидеть в запасе. Из всех вариантов выбрал Минск, куда и приехал в 1961 году.

**— Тогда была команда "Беларусь"?**

— Да, боролась за право остаться в высшей лиге. Но затем пришли Малофеев, Адамов, другие, и уже в 1963-м мы взяли бронзу. Это был огромный успех! В 1962-м я стал лучшим бомбардиром чемпионата СССР, в 1965-м играли в финале Кубка страны со "Спартаком"... Хороший был коллектив, дружный. С нами прекрасно себя чувствовал и главный тренер — Сан Саныч Севидов.

**— Эдуарда Зарембо называли "королем подката". А у Михаила Мустыгина был свой фирменный стиль?**

— У Эдика на самом деле здорово получалось в шпагате мяч выбивать, он рассказывал, что акробатикой занимался. Насколько я знаю, больше этим приемом никто не пользовался. Но и у меня были свои фирменные штучки. Во-первых, когда к воротам выходил, не бил лишь бы куда. Еще Бобров учил: "Миша, никогда не спеши у ворот. Все проанализируй — и только затем принимай решение". Так что голова в футболе тоже имеет не последнее значение. Еще любил наклонить корпус влево, а внешней стороной стопы отбросить мяч вправо и уйти от соперника. Все происходило на автомате. Обводка у меня хорошая была, на мяч даже не смотрел.

**— Вратари, наверное, не любили вас?**

— Тандема "Малофеев—Мустыгин" все московские команды боялись, не говоря уже о других. Как-то в Куйбышеве играли. На улице жара, выходим на поле — лужи! Оказывается, они специально газон из шланга поливали, чтобы нам, техничным, тяжелее играть было. Кстати, сделали мы тогда этих чудаков и на мокром поле.

**— А правда, что однажды вы вышли на поле со сломанной ногой?**

— Было дело. Ох, и любил я против московского "Динамо" играть! Там у них защитник был такой — Жора Рябов. Здоровый, высокий, неповоротливый... 2:0 у москвичей выигрываем, до конца матча остается минут пять, я начинаю издеваться финтами над Рябовым. А тот терпел-терпел, а затем с размаху как прыгнет мне бутсами на ногу! Боль адская, голеностоп опух — с кулак! Перелом. А следующую игру проводим с "Ростовом". Сан Саныч говорит: "Миша, ты выйди на поле и просто постой у чужих ворот. Уже двоих защитников на себя оттянешь, ребятам будет легче". Забинтовали ногу, укол сделали, вышел играть. Еще и гол забил. Вот так тогда играли... Мне Лев Яшин, когда я ему забивал, говорил: "Молодец, Миша! Учи наших футболистов, как надо играть".

**— Михаил Михайлович, а какой у вас был самый запоминающийся матч?**

— В 1963-м мы боролись с тбилисским "Динамо" за третье место. Тоже хорошая команда была. Месхи, Калоев... 3:0 мы тогда у них выиграли. Два мяча я забил, и один — Эдик Малофеев. Очень памятная игра! Кстати, когда мы приезжали в Грузию, там настолько гостеприимно принимали, что не передать словами. После игры заходишь в ресторан гостиницы, а со всех сторон шампанское приносят.

**— Футболисты могли расслабиться?**

— Честно скажу, никто особо не увлекался. Если и позволяли, то шампанское. Даже воду лишнюю не пили, не то что спиртное. У нас только Володя Сахаров был любителем "причаститься". Ему как-то даже Петр Миронович Машеров сказал: "Володя, ты выпивай-то поменьше".



**— А в карты играли?**

— О, это дело мы любили! И самые азартные картежники были — Эдуард Зарембо, Вениамин Арзамасцев, Эдуард Малофеев и Михаил Мустыгин. В "трынку" резались, есть такая игра. Зарембо при выигрыше делил деньги с Арзамасцевым, я — с Малофеевым. Однажды вечером "сделали" их, а уже утром — стук в дверь: "Давай по-быстрому сыграем". Одним словом, пока на зарядку собрались, мы вчерашний выигрыш до копейки и продули. Но какие там суммы!По десятке сбрасывались...

**— Вы говорили, что Машеров в команду приезжал…**

— Все время нашу базу посещал! Машеров очень толковый руководитель был. Красавец-мужчина, спокойный, человечный. Очень жаль мне было, когда он погиб. Думаю, люди всегда его будут вспоминать добрым словом. Кстати, в то время футболистов руководство не обижало. Всем игрокам основного состава квартиры, машины давали. Я, когда приехал в Минск, сначала обитал на "шарикоподшипниках", но затем дали квартиру возле Ботанического сада. Недалеко жили Зарембо, Денисенко, Малофеев, Адамов... Все сам обустраивал, но раньше ведь все дешево было. Не то что сейчас. А в команде получали триста рублей в месяц, плюс премиальные — 80 рублей за победу.

**— Вы вспомнили Леонарда Адамова, который в 1977-м выбросился из окна, застав свою жену с другим мужчиной…**

— Трагедия Адамова — это для меня была полная неожиданность! Он же серьезный мужик был. Не выпивал, никаких пагубных привычек... И такая нелепая смерть. Ну изменила тебе жена — уйди от нее и найди другую. Но Адамов все в душе держал, скрытный был. Никому и ничего не рассказывал. И никто не знал, что там у него внутри кипело.

**— А вы во сколько женились?**

— В 22 или 23, точно не помню. Из Коломны первая жена, я ее затем в Минск привез. Но не хочу о том периоде вспоминать, по молодости делаешь столько ошибок. Мне бы на то время сегодняшний ум, я бы до 30 лет не женился. Куда спешить было?..

**— Тогда вернемся к футболу. Вы несколько раз становились лучшим бомбардиром чемпионата СССР, но в сборной Союза не играли. Почему?**

— Несколько товарищеских матчей за сборную я провел, но... У меня были проблемы с сердцем, кардиограмма показала. Тренер сборной Константин Иванович Бесков извинялся, что не может в команду взять, говорил, что врачи не разрешают. Я даже в Москву к профессору ездил несколько раз, тот порекомендовал заниматься по индивидуальному плану. И разрешил играть лишь за одну команду. А если бы в Москву не съездил? Проклинал бы затем все на свете. Одним словом, медики поставили крест на моих планах попасть в сборную. Но оставалось "Динамо", благодарные болельщики. Было ради чего жить и работать.

**— Говорят, что стадион тогда постоянно собирал аншлаги.**

— Бывало, с вечера очередь занимали и до утра стояли, чтобы билет купить. На любой матч первенства Союза. Приятно играть было, болельщики плакаты писали: "Миша — молодец!", "Миша — гол!". Приходили и молодежь, и пожилые люди. Все болели за команду душой, футбол любили. А сейчас что мы видим? Я вот смотрю на некоторых фанатов. Многие ж из них, как мне кажется, в футболе даже не разбираются, а приходят просто покричать и пошуметь за компанию. Ищут на стадионе самовыражение. Истинных болельщиков — единицы. Вот и имеем, что на игры чемпионата страны приходят по 300—500 человек. Я даже представить не могу, что было бы, если бы наша команда в свое время вышла из раздевалки на поле и увидела, что на трибунах несколько сотен человек. Да у меня ноги отнялись бы! Какая здесь самоотдача, если не для кого играть?! У тебя же энергии прибавляется в несколько раз, когда видишь, что поддерживают. И мне сегодня жаль футболистов, которые играют при пустых трибунах.

**— Но можно пожалеть и тех болельщиков, которые платят деньги за билеты, но иногда и смотреть-то нечего. Заснуть во время матча можно…**

— Тоже, конечно, проблема. И получается замкнутый круг. Когда Союз развалился, а вместе с ним и союзное первенство, я знал, что у людей пропадет интерес к отечественному футболу. Хотя мы же видим, что на БАТЭ народ идет. Болельщики любят красивый футбол, в столицу приезжают гранды... Пускай бы объединили чемпионаты Беларуси, России и Украины. Сделали бы что-то наподобие Континентальной хоккейной лиги, в которой есть и белорусская команда, и украинская, и чешская, и российские. Сильные соперники вызывают интерес. А так варимся в собственном соку, а значит, еще очень долго не увидим болельщиков на трибунах. В этом плане я пессимист. Белорусский футбол вообще стоит на месте, прогресса не вижу. Не вижу ярких игроков, не появляются индивидуальности. Назовите мне их фамилии. Сейчас же как играют? Катают мяч по полю. Туда передача, обратно... То ли тактика такая, то ли им так проще играть.

**— Михаил Михайлович, как сложилась ваша жизнь после ухода из большого спорта?**

— Работал тренером, и среди моих воспитанников — Игорь Гуринович, Игорь Криушенко, Юрий Пунтус... Все звонят, иногда приезжают. Затем ушел на пенсию. Развелся я уже давно, жил холостяком, но как-то с друзьями приехали в эту деревню, мне и сосватали Марию Ивановну. Сказали: "Миша, оставайся с ней. Это такой душевный человек, будешь жить, как в сказке". И вот уже 12 лет мы на самом деле живем душа в душу.

**— Нравится в деревне?**

— О чем ты говоришь?! У меня в Минске осталась однокомнатная квартира, так ездим туда, только если что-то нужно постирать. Час там посижу и уже снова сюда тянет. Мне как-то знакомый говорит: "Не понимаю, как ты в деревне живешь. Там же скучно". Я ему: "Не скучнее, чем сидеть в городской клетке". А летом какая здесь красота!

**— Хозяйство у вас есть?**

— Кот и собака. На огороде овощи и фрукты выращиваем. Люблю за грибами ходить, на зиму много закаток сделали. Сейчас пенсию подняли, что-то около 2 миллионов выходит. Жена тоже пенсию получает да еще работает. Да и "Динамо" не забывает, спорткомитет... Так что не жалуемся. А самое главное — семья у нас дружная. Живи и жизнью наслаждайся. Жизнь, считаю, я прожил не зря...

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**



Удар Мустыгина…

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Прыгажуня і чэмпіёнка

*Аляксандра Герасіменя стала чэмпіёнкай Еўропы*

Беларуская плыўчыха выйграла "золата" на кароткай вадзе на чэмпіянаце Еўропы, які праходзіў у французскім Шартры.

Наша спартсменка перамагла на дыстанцыі 50 м вольным стылем. Яна фінішавала за 23,85 секунды, на 0,1 секунды палепшыўшы свой жа нацыянальны рэкорд.

Аляксандра ўпершыню стала чэмпіёнкай Еўропы. Да гэтага ёй даставалася толькі срэбра.

Віншуем!!!

ШАШКІ

## Чэмпіянат Еўропы

Ён адбыўся па шашках-64 у расійскім г.Суздалі. У ім выдатна выступілі прадстаўнікі нашай краіны: міжнародны гросмайстар з Мінска Андрэй Валюк (залаты медаль у асноўнай праграме і бронзавы — у бліцы), міжнародны майстар з Гомеля Яўген Кандрачэнка (трэці прызёр у галоўным турніры) і юная чэмпіёнка Беларусі мінчанка Анастасія Барышава (5-е месца сярод жанчын). Двойчы чэмпіён свету па рускіх шашках і экс-чэмпіён па бразільскіх Андрэй Валюк выканаў умовы для прысваення яму звання заслужанага майстра спорту РБ, Яўген Кандрачэнка — міжнароднага гросмайстра. З задавальненнем знаёмім вас з цікавымі эпізодамі гульні:

1. **Белыя** (М. Амрылаеў):a1,c1,c3,d2,d4,f2,f4(7).

**Чорныя** (А.Валюк):a3,a5,b6,b8,e7,g5,h6(7).

У хуткіх шашках белые вырашылі спрасціць пазіцыю 1. fg3? і ... прайгралі. Пераканайцеся ў гэтым самастойна.

2. **Белыя** (Я.Кандрачэнка) — **чорныя** (М.Стручкоў). Бліц-партыя прыводзіцца цалкам: 1. cb4 fg5 2. ed4 ef6 3. de3 fe7?! 4. bc5 d:b4 5. a:c5 gh4 6. gf4 ba5? 7. hg3! fg5 8. bc3! ef6 9. ab2 fe5 10. f:d6 c:e5 11. d:f6 g:e7 12. cd4 ef6 13. bc3x.

3. **Белыя** (Я. Кандрачэнка): a1, a3, b2, c3, e1, g3, g5, h2, h4, h6 (10).

**Чорныя** (А. Кірбатас): a5, c5, c7, d4, d6, e5, e7, f6, f8, g7 (10).



Асноўная праграма (у пачатковай расстаноўцы e3 была пастаўлена на поле h6, а h6 — на a5): 1. gh4 bc5 2. cb4 a:c3 3. d:b4 fe5 4. ba5 gf6 5. hg3 hg7? 6. fe3 ed4 7. ef4 ab6? 8. fg5 de5 9. cd2 cd6 10. a:c7 d:b6 11. dc3 ba5 12. gh2 bc7. Атрымалася становішча, якое мы прывялі ў натацыі. Далей было: 13. cb4! a:c3 14. gf4 e:g3 15. h:f2 f:h4 16. fe3 d:f2 17. e:g3 h:f2 18. b:e1x.

4. **Белыя** (В.Скрабаў) — **чорныя** (Я.Кандрачэнка). Хуткая праграма (у дэбюце a3 стаіць на h4, a7 — на a3): 1. gf4 fg5 2. h:f6 g:g3 3. h:f4 hg7 4. cd4 ba5 5. fg3 gf6 6. gh4 cb6 7. gh2 bc5 8. d:b6 a:c7 9. bc3 cb6 10. ef2 fg5 11. h:f6 e:g5 12. fe5 d:f4 13. fg3 fe7 14. g:e5 gh4. Тут белыя праводзяць памылковы манеўр: 15. cb4? a:c5 16. ed6 ef6 17. d:b4 fg5! 18. ab2 dc7! 19. ba5 bc5 20. ba3 gf4 21. e:g5 h:f4 22. de3 f:d2 23. c:e3 cd6x.

## Рашаем разам

**"У ліку лідараў"** (П.Шклудаў): hg3, b4 (c3) b4 (a5) I g3 (f4) gf2, b8, e3, e5 (d4) h8 (e3) c3 (f2) e5, e1 (c7) g3 (b6) f2 (a5) e1(g5) d2 (h4) e1 (b4) a5 (g3) b6 (h2) g1+. I d2, de3, e7 (d6) c5 (f4) d6 (fg3) e3 (f2) b8, a7 (e5!) f2, d4 (d6) h8 (c5) c3 (e7) e5 (b4) d4 (f6) h8 (g5) f6 (c3)=.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

МАЗАІКА

## «Сталевары» ідуць у Еўропу

*Хакеісты жлобінскага "Металурга" выйшлі ў фінал Кантынентальнага кубка.*

25 лістапада ў заключным матчы паўфінальнага турніру, які праходзіў у нарвежскім Ставангеры, беларускі клуб выйграў па булітах у каманды гаспадароў з лікам 4:3.

У фінале, які пройдзе 11—13 студзеня ў Данецку (Украіна), "Металург" сустрэнецца з мясцовым "Данбасам", італьянскім "Бальцана" і французскім "Руанам" — пераможцам апошняга фіналу.

## Банк развіцця стадыёна

*ААТ "Банк развіцця Рэспублікі Беларусь" возьме ўдзел у фінансаванні будаўніцтва футбольнага стадыёна ў Барысаве.*

Згодна з дзяржаўнай праграмай развіцця футбола ў Беларусі на гэтую пяцігодку, у Барысаве павінен быць пабудаваны стадыён з трыбунамі на 12 тысяч глядацкіх месцаў.

Тэрмін завяршэння будаўніцтва — 2013 год. У якасці крыніц фінансавання праекта раней былі прадугледжаны сродкі мясцовага і рэспубліканскага бюджэтаў. Зараз да іх дабаўлены і рэсурсы Банка развіцця Беларусі. Іх аб'ёмы не называюцц.

## Фініш!

*У мінулыя выхадныя матчамі 33-га тура завяршыўся чарговы чэмпіянат Беларусі па футболе сярод каманд вышэйшай лігі.*

Уладальнікі ўзнагарод вызначыліся датэрмінова. Імі сталі барысаўскі БАТЭ, салігорскі "Шахцёр" і мінскае "Дынама".

Апошняе месца заняло жодзінскае "Тарпеда-БелАЗ", якое чакаюць пераходныя матчы за права застацца ў дывізіёне наймацнейшых з другой камандай першай лігі "Гарадзеяй" (пераможца турніру ў першай лізе магілёўскі "Днепр" выйшаў у вышэйшую аўтаматычна), піша БелаПАН.

Вынікі матчаў апошняга тура: БАТЭ—"Шахцёр" — 2:1, "Белшына"—"Гомель" — 3:1, "Нёман"—"Тарпеда-БелАЗ" — 2:1, "Брэст"—"Славія" — 2:0, "Нафтан"—"Мінск" — 1:2.

Выніковае становішча каманд: БАТЭ — 68 ачкоў, "Шахцёр" — 61, "Дынама" — 56, "Гомель" — 50, "Нёман" — 41, "Мінск" — 39, "Белшына" — 30, "Брэст" — 29, "Нафтан" — 29, "Славія" — 27, "Тарпеда-БелАЗ" — 24 ачкі.

## Рыба шукае дзе глыбей

*Футбаліст барысаўскага БАТЭ Рэнан Брэсан пераходзіць у расійскі клуб "Аланія".*

Старшыня праўлення БАТЭ Анатоль Капскі кажа, што такое рашэнне прынялі футбаліст і яго агент. Колькі грошай атрымаў клуб, не разгалошваецца.

Як паведамляе сайт goals.by, Капскі пацвердзіў інфармацыю пра пераход Брэсана, якая з'явілася ў інтэрнэце.

Паводле слоў Анатоля Капскага, Брэсану прапанавалі такія ўмовы, "ад якіх было складана адмовіцца". Яго ў "Аланіі" нібыта бачаць футбалістам асноўнага складу.

## Засталося толькі восем

*Адбылося лёсаванне 1/4 фіналу Кубка Беларусі, паведамляе афіцыйны сайт Федэрацыі футбола Беларусі.*

Вызначыліся наступныя пары сапернікаў:

"Дынама" (Мінск) — "Шахцёр" (Салігорск),

"Белшына" (Бабруйск) — "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна),

СКВІЧ (Мінск) — "Брэст",

"Мінск" — "Гомель".

На гэтай стадыі пераможца вызначаецца па выніках аднаго матчу. Сустрэчы 1/4 фіналу пройдуць у сакавіку 2013 года.

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by**
**http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.11.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27250 экз. Заказ №5036.**